IDW

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

#30 • CVR B

EASTMAN
WALTZ
CAMPBELL
PATTISON














ТЫ, ПРЫЯЦЕЛЬ, НАПЭЎНА ПЫТАЎ САМ СЯБЕ, КУДЫ Я ЗНІК, ТАК? ТАК ВЫЙШЛА, ШТО ТОЕ РАССЛЕДВАННЕ, ЯКОЕ МЫ З ТАБОЙ ПРАВОДЗІЛІ, ЦАЛКАМ АПРАЎДАЛА СЯБЕ. МЫ НАРЭШЦЕ ЗНАЙШЛІ БРАТКУ ЛЕА І ВЫРАТАВАЛІ ЯГО... ПАСЛЯ БЯЗЛІТАСНАЙ БОЙКІ. ПОТЫМ НАША СЯБРОЎКА ЭЙПРЫЛ ДАПАМАГЛА ЗБЕГЧЫ ЗА ГОРАД, ДЗЕ МЫ І ХАВАЕМСЯ ЗАРАЗ. МЫ ЗНАХОДЗІМСЯ ТУТ КАЛЯ ТЫДНЯ І СПРАВЫ БЫЛІ... НЕ ВЕЛЬМІ ДОБРЫМІ.

ГОРШАЯ ЧАСТКА ПАЧАЛАСЯ, КАЛІ МУТАНТКА АЛАПЕКС УЦЕКЛА РАЗАМ З НАМІ НА ФУРГОНЕ З НЮ-ЁРКА. РАФ ЖУДАСНА НА ЯЕ РАЗЗЛАВАЎСЯ І РАСПАЧАЛАСЯ СУР'ЁЗНАЯ БОЙКА. СПАЧАТКУ БІЛІСЯ РАФ І АЛАПЕКС, А ПОТЫМ ЛЕА ЎМЯШАЎСЯ І АБАРАНІЎ ЯЕ. ТАДЫ ДОНІ І Я ПАСПРАБАВАЛІ СПЫНІЦЬ ІХ. ШТО ТОЛЬКІ МАЦНЕЙ РАЗЗЛАВАЛА РАФА І ЛЕА...

БЫЎ ПОЎНЫ ВЭРХАЛ, СЯБАР.

БАЦЬКА, У РЭШЦЕ РЭШТ, ЗМОГ СУПАКОІЦЬ... АМАЛЬ УСІХ. ЛЕА І АЛАПЕКС ПАКІНУЛІ НАС І З ТЫХ ЧАСОЎ ЗНІКЛІ НА ЗУСІМ.

Я ТУРБУЮСЯ ЗА ЛЕА. ЁН ЗАЎСЁДЫ БЫЎ НАШЫМ ЛІДАРАМ, СТАРЭЙШЫМ БРАТАМ, ЯКІ ВЕДАЎ, ШТО РАБІЦЬ І ЗАЎСЁДЫ КЛАПАЦІЎСЯ ЗА НАС.

АЛЕ ВОСЬ ЗАРАЗ, ВУДЗІ, КЛЯНУСЯ...


















ВЫРАШЫЛА ТРОХІ ПАПАЛЯВАЦЬ ПЕРАД СНОМ, АЛАПЕКС?
УНФ!


Я НЕ ПАЛЯВАЛА.
А ШТО ТАДЫ? УСЯКІЙ РАЗ, ЯК ЦЯБЕ БАЧУ, ТЫ КУДЫ-НЕБУДЗЬ КРАДЗЕШСЯ.
МЫБЫЦЬ ТЫ І ЗАДУРЫЛА ЎСІХ, АЛЕ Я НЕ ПАВЕРУ Ў ТВАЁ «БЕДНАЯ Я, НЯШЧАСНАЯ». Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ ШТОСЬЦІ ЗАДУМАЛА.


ВЕР У ШТО ХОЧАШ, ЧАРАПАХА.


НУ НЕ!
ТАК ПРОСТА ТЫ АД МЯНЕ НЕ ЎЙДЗЕШ!
ТЫ НЕ ЗРОБІШ НІ КРОКА, ПАКУЛЬ Я НЕ ВЫСВЯТЛЮ ЯКОГА ЛЕСУНА ТЫ ТУТ ТРЭШСЯ.


А НУ ЎБЯРЫ АД МЯНЕ СВАЕ ЛАПЫ!


ХОЧАШ ВЕДАЦЬ, ШТО Я РАБІЛА? СПРАБАВАЛА АД-ДЗЯЧЫЦЬ ТВАЙ-ГО БРАТА ЗА ТОЕ, ШТО АБАРАНІЎ **АД ЦЯБЕ**!
ХАЦЕЛА СКА-ЗАЦЬ ДЗЯКУЙ, ХАВАЮЧЫ-СЯ Ў ЯГО ЗА СПІНОЙ?
І ТЫ ЧАКАЕШ, ШТО Я ПАВЕРУ Ў ГЭТА?


НЕ. І НАВАТ КАЛІ Б ТАК – МНЕ ДА АДНА-ГО МЕСЦА.
ЁН УСТУПІЎСЯ ЗА МЯНЕ, ХОЦЬ І НЕ ПАВІНЕН БЫЎ. МЕНЬШАЕ, ШТО Я МАГУ – ВЫКАЗАЦЬ ЯМУ ПАДЗЯКУ, АСАБЛІВА ЎЛІЧВАЮЧЯ ЯГО СТАН.


Я ВЕДАЮ, ШТО ГЭТА ТАКОЕ, КАЛІ ШРЭ-ДАР У ТВАЁЙ ГАЛАВЕ ПЕРАКРУЧВАЕ ЎСЕ ДУМКІ І ПАЧУЦЦІ.


ТЫ ЎСЁ СУПРАЦІЎЛЯЕШСЯ І СУПРАЦІЎЛЯЕШСЯ, АЛЕ ГЭТА НЕ СПЫНЯЕЦЦА...
...НІКОЛІ.


Я ВЫДАТНА РАЗУМЕЮ, ШТО ЗАРАЗ АДЧУВАЕ ЛЕАНАРДА. Я ХАЦЕЛА ЎПЭЎНІЦЦА, ШТО ЁН У ПАРАДКУ... ШТО НЕ НАШКОДЗІЎ САБЕ.

ТАБЕ НЕ ЗРАЗУМЕЦЬ. У ЦЯБЕ ЁСЦЬ СЯМ'Я, СЯБРЫ... ДОМ.
А Ў ЛЕАНАРДА І МЯНЕ?

ЦЯПЕР У НАС НЯМА НІЧОГА.

ВЕРЫШ ТЫ МНЕ ЦІ НЕ – ЯКАЯ РОЗНІЦА.
АЛЕ ТЫ БАЧЫЎ ЛЕАНАРДА, ЯК ЯМУ ЦЯЖКА. КАЛІ БЫ Я І ЖАДАЛА ПРЫКОНЧЫЦЬ ТВАЙГО БРАТА...

...ТАДЫ Б УЖО ЗРАБІЛА ГЭТА.
ТАК, ВУДЗІ... У НАС БЫЛІ ЗУСІМ НЕ СПЕВЫ КАЛЯ ВОГНІШЧА І ПЕЧАНАЯ БУЛЬБА.

І З БАЦЬКАМ ТАКСАМА БЫЛА БЯДА.
ШРЭДАР ЯМУ ЗЛАМАЎ НАГУ. ДРЭННЫЯ СПРАВЫ.
ВОСЬ ТАК, Я ДУМАЮ, ДЛЯ ПАЧАТКУ ПАДОЙДЗЕ. РАНЕННЕ ЗАГАЙВАЕЦЦА ХУТКА, Я ЎСЁ ПРАДУГЛЕДЗІЎ.
АЛЕ ВОСЬ ПЕРАЛОМ...
...ТРЭБА ЯК СЛЕД ПАНАЗІРАЦЬ ЗА ІМ.

АЛЕ Я НЕ ДУМАЮ, ШТО ГЭТА САМАЯ СУР'ЁЗНАЯ ШКОДА, ЯКУЮ ЯМУ ЗРАБІЎ ШРЭДАР.
ММ... ТАК.

А НЕБАРАКА ДОНІ... ЯГО МАЗГІ НА МЯЖЫ МАГЧЫМАСЦЯЎ. ЁН НАВАТ ГРАФІКІ СКЛАЎ, КАБ ДАКАЗАЦЬ ГЭТА.
ВЕДАЕЦЕ, МАЙСТАР, ЦЯПЕР, КАЛІ МЫ ВЯРНУЛІ ЛЕА, МНЕ Ў ПЕРШУЮ ЧАРГУ ТРЭБА ЗАНЯЦЦА ПАГРОЗАЙ У ВЫГЛЯДЗЕ ТЭХНАДРОМА.

ДЛЯ ЯГО ЗАТРЫМАЦЦА Ў СТАРЫМ СВІРАНЕ БЕЗ КНІГ ЦІ КАМПУТАРАЎ З ГАДЖЭТАМІ?..
ВОСЬ ТОЛЬКІ... Я МАЛА ШТО МАГУ ЗРАБІЦЬ СЕДЗЯЧЫ ТУТ. КАНЕШНЕ, У МЯНЕ ЁСЦЬ ЗАПІСЫ ПРАФЕСАРА ХАНІКАТА І АД ІХ ЁСЦЬ КАРЫСЦЬ, АЛЕ...
...ЛЮБОЕ ЗАПАВОНЕННЕ НАБЛІЖАЕ НАС НА КРОК БЛІЖЭЙ ДА АПАКАЛІПСІСА.

БЕЗ ПРАФЕСАРА Я АМАЛЬ МАГУ ШТОНЕБУДЗЬ ЗРАЗУМЕЦЬ. АЛЕ НЕСУМНЕЎНА ТОЕ, ШТО РАЗБУРАЛЬНЫ ПАТЭНЦЫЯЛ І АБАРОННЫЯ СІСТЭМЫ НА ГЭТАЙ ШТУКЕ ВЕЛЬМІ СУР'ЁЗНЫЯ, І ДАЛЕЙ МОЖА БЫЦЬ БОЛЬШ...
БАЦЬКА, ТЫ МЯНЕ ХОЦЬ СЛУХАЕШ?
ХМ?

ГЭТА, СКАЖУ ПРАМА, ПОЎНЫ ГАМОН.
А, НЯВАРТА.

МАМА?

ДЗІЦЯЦІ МАЕ, СПЫНІ БАРАЦЬБУ...

...ТЫ МЯНЕ АДШУКАЎ.

О... ДЗЯКУЙ БОГУ.

ЧАМУ ТЫ ЛЬЕШ СЛЁЗЫ, МОЙ МІЛЫ СЫН? ТУТ ТЫ ПАД АБАРОНАЙ...

... НЯЎЖО НЕ АДЧУВАЕШ ГЭТАГА?

АДЧУВАЮ.

ТАДЫ ПОЙДЗЕМ, ДЗІЦЯЦІ.

ЦІ ТЫ ПАМЯТАЕШ ГЭТЫ САД, СЫН?

ТАК, МЫ ТУТ УЖО БЫЛІ.

А ПАМЯТАЕШ, ШТО Я СКАЗАЛА ТАБЕ ТАДЫ?

ШТО КАЛІ Я ЗНАЙДУ СТРАЧАНАЕ, ТАДЫ ЗРАЗУМЕЮ, ХТО АДКАЗНЫ ЗА ПЕРАЖЫТЫ МНОЮ БОЛЬ.

ЦІ ТЫ ЗНАЙШОЎ ТОЕ, ШТО СТРАЦІЎ?

Я... БЫЦЦАМ ТАК. НЯ ВЕДАЮ. ЁСЦЬ ТЫЯ, ХТО ЗАБРАЎ МЯНЕ... УРАТАВАЎ... АЛЕ...

...АЛЕ Я ІХ НЕ ПАЗНАЮ.

НА САМОЙ СПРАВЕ, Я РАЗУМЕЮ, ШТО ГЭТА БРАТЫ, БАЦЬКА, АЛЕ... ЯНЫ ВЫГЛЯДАЮЦЬ ЧУЖЫНЦАМІ... БЫЦЦАМ... ЗДАНІ.

І ЎСЁ Ж, ЯНЫ САПРАЎДНЫЯ... І ВЕЛЬМІ ЛЮБЯЦЬ ЦЯБЕ. ТЫ Б ТУТ НЕ СТАЯЎ, КАЛІ Б ГЭТА БЫЛО НЯ ТАК..

ТЫ ЗНАЙШОЎ ТОЕ, ШТО СТРАЦІЎ, СЫН... ТАБЕ ТОЛЬКІ ТРЭБА ДЗЕЙНІЧАЦЬ НЕ СПЯШАЮЧЫСЯ І ПАЗБЯГАЦЬ УЗРУШЭННЯЎ.

ПЕРАД ТАБОЙ ЛЯЖЫЦЬ НОВЫ ШЛЯХ. АДКАЗЫ ЧАКАЮЦЬ НАПЕРАДЗЕ, КАЛІ БУДЗЕШ ГАТОВЫ ДА ПЕРШАГА КРОКУ.

ЛЕА!

АЛЕ... ЯК ЖА ТЫ, МАМА?

Я ПАТРЭБНА Ў ІНШЫМ МЕСЦЫ...

МАМА... ПАЧАКАЙ.

ЛЕА!













ПАЧАЛОСЯ З ТАГО, ШТО СТОКМАН ПРЫЦЯГНУЎ БАЦЬКУ І НЕКАЛЬКІ ВУЧОНЫХ ДА РАБОТЫ НАД СПЕЦЫФІЧНЫМ КАМПАНЕНТАМ СО, ГЭТА ШТОСЬЦІ НАКШТАЛ УЗМАЦНЁНЫХ ГАЮЧЫХ МАГЧЫМАСЦЯЎ. НЕШТА ПАД ДОЎГАЙ І НЕВЫМАЎЛЯЛЬНАЙ НАЗВАЙ, ЯНЫ НАЗВАЛІ ГЭТА **«РЭЧЫВАМ»**.










ВЕДАЕШ, ЭЙПРЫЛ, ТЫ НАМ З БАЦЬКАМ ТАКСАМА НІЧОГА НЕ РАСКАЗВАЛА. ТЫ ПАВІННА БЫЛА РАСКАЗАЦЬ НАМ РАНЕЙ ПРА ТОЕ, ШТО З ТАБОЙ АДБЫВАЛАСЯ Ў СТОКГЕН.
ВЕДАЮ, МАМ, ПРАБАЧ. ПРОСТА ВЫРАШЫЛА, ШТО САМА ЗЛАДЖУ, І НЕ ХАЦЕЛА, КАБ ВЫ ХВАЛЯВАЛІСЯ.
Я ЦЯБЕ ХАПАЕ КЛОПАТАЎ І БЕЗ МАІХ БЕДАЎ, ЯКІЯ ЎСЁ ЎСКЛАДНІЛІ Б.
ШТО БАЦЬКА, ШТО ДАЧКА.

КАЛІСЬЦІ Я БЫЛА КЛАСНЫМ РЭПАРЦЁРАМ І ПАЧУЦЦЕ ПАДКАЗВАЛА МНЕ, ШТО З ПРАЕКТАМ БАЦЬЦІ ШТОСЬЦІ НЕ ТАК.
Я ПАВІННА БЫЛА ЎБЕРАГЧЫ ЦЯБЕ АД ГЭТАГА МЕСЦА.

АЛЕ Ж... СТОКГЕН БЫЛІ ТАК ДАБРЫ ДА НАС ПАСЛЯ ІНСУЛЬТА ДЖОНА, І ІНТЭРНАТУРА ДАВАЛА ТАБЕ ВЕЛІЗАРНЫЯ МАГЧЫМАСЦІ.
МНЕ ТРЭБА БЫЛО СЛУХАЦЬ СВАЁ ПАЧУЦЦЕ...

НЕ РАБІ З СЯБЕ ВІНАВАТУЮ. Я ДАРОСЛАЯ ДЗЯЎЧЫНКА, А ТЫ І ТАТА ЗАЎСЁДЫ ВУЧЫЛІ МЯНЕ ПЕРААДОЛЬВАЦЬ УСЕ ЦЯЖКАСЦІ. ТАК Я І ЗРАБІЛА. Я Ў ПАРАДКУ, САПРАЎДЫ.
ДЗЯКУЙ. АЛЕ ЦЯПЕР ДАВАЙ ЖЫЦЬ БЕЗ ТАЙНАЎ, ДОБРА?

ЭМ... ДОБРА.

ЁСЦЬ НЕШТА, НА ШТО ТАБЕ ТРЭБА ЗІРНУЦЬ. МАБЫЦЬ ЯНО БУДЗЕ КАРЫСНЫМ – Я НЯ ВЕДАЮ.
ЧАКАЙ ТУТ.

ТВОЙ БАЦЬКА НІКУДЫ НЕ ХАДЗІЎ БЕЗ ГЭТАГА СТАРОГА НОУТБУКА. У ІМ УСЕ ЯГО ЗАПІСЫ І ДАДЗЕНЫЯ ЗА МНОГІЯ ГАДЫ.
Я АДНОЙЧЫ СПРАБАВАЛА ЗДАБЫЦЬ ІНФАРМАЦЫЮ, АЛЕ ЎСЁ ШТО Я БАЧУ – НАВУКОВАЯ АБРАКАДАБРА. У МЯНЕ ПРОСТА НЯМА ЧАСУ, КАБ ЗРАЗУМЕЦЬ ЯЕ ЗНАЧЭННЕ...

«...АЛЕ МАБЫЦЬ У ЦЯБЕ АТРЫМАЕЦЦА».
ВІДАЦЬ, ЦЯЖКІ СОН ТАБЕ САСНІЎСЯ, БРАТ – ТЫ БАЛБЫТАЎ БЕЗ ПЕРАПЫНКУ.
Я... САПРАЎДЫ?
ТАК. У АСНОЎНЫМ МАРМЫТАЎ, АЛЕ Я ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЧУЎ, ЯК ТЫ КЛІКАЎ МАЦІ НЕКАЛЬКІ РАЗОЎ.
І ЯШЧЭ ШТОСЬЦІ ТАМ ПРА ЗДАНЯЎ, ЗДАЕЦЦА.

ОЎ.
УСЁ ЯШЧЭ БАЧЫШ ЯЕ Ў СНАХ?
ТАК. БЫВАЕ.

АЛЕ... ГЭТА НЕ ПАДОБНА НА СОН. УСЁ ТАКОЕ РЭАЛЬНАЕ... БЫЦЦАМ ЯНА І САПРАЎДЫ ТАМ, РАЗМАЎЛЯЕ СА МНОЙ... ДАПАМАГАЕ. ГЭТА БЫЦЦАМ... МАГІЯ. Я...
...Я НЯ ВЕДАЮ, ЯК ПАТЛУМАЧЫЦЬ ГЭТА.

СПРАЧАЮСЯ, ДЛЯ ЦЯБЕ ЎСЁ ГУЧЫЦЬ ВАР'ЯЦКА, ТАК?
МЕСЯЦАЎ ШЭСЦЬ НАЗАД БЫЛО Б ТАК. А ЗАРАЗ?
НЕ ВЕЛЬМІ.

СУР'ЁЗНА?

Улічваючы, праз што мы прайшлі, і ўсё што здарылася...

...мабыць у гэтым больш лёсу і прадвызначэння, чым я калі-небудзь хацеў выказаць сабе здагадку.

Бо ўсе гэтыя супадзенні... якія тут шансы?

Часам мне здаецца, быццам мы ўсе ў пастке касмічнага імпульса.

Ня ведаю. Магчыма. Але я зараз адчуваю сабе ў тупіку. Я захраснуў.

Быццам я пасярод акіяна і ня ведаю, куды плыць.

Чувак, гэта ўсё прамыўка мазгоў вінавата. Фут добра папрацавалі ў тваёй галаве, але ў іх больш няма ўлады над табой.

Толькі трымайся і памятай, што мы прыкрыем. Заўсёды.

Дзякуй, Доні.

Чаму б табе не вярнуцца са мной у Свіран? Я спрабую вырашыць праблему з Тэхнадромам і мне б спатрэбіўся слухач для маіх ідэй.

Гэта... ён такі велізарны і складаны... я спрабую не даць яму збіць мяне з панталыку, але...

...баюся, што не атрымаецца.

Ты зладзіш, Дон, павер мне.

Магчыма, у дадзены момант ад цябе схаваны шлях, па якім трэба ісці, але калі зробіш першы крок, тады лёгка ўбачыш накірунак.

Ты зразумееш, як зладзіць з Тэхнадромам – проста рабі крок за крокам.

Хм. Даволі годная парада. Дзякую.

Гэй, не мне кажы дзякуй.

«...я даведаўся гэта ад кагосьці іншага».

Прывітанне, муж мой.

Шэн?

Так, Ёшы, гэта я.

Прашу, не глядзі на мяне. Я... мне сорамна, што ты бачыш мяне вось такім. Пацуком.

Зломленай пачварай.

Не кажы глупстваў. Ты, так жа, як і я, выдатна ведаеш, што **сапраўдная сутнасць** асобы...

...ляжыць унутры.

Я схібіў, Шэн. Як муж і... бацька. Наш старэйшыбыў схоплены Футамі... Ароку Сакі. Выкрадзены і звернуты да зла, супраць сваёй волі.

І ўсё ж ён зараз там, дзе і павінен быць. З братамі... і з бацькам.

Ты не схібіў, Ёшы. І ніколі ня хібіў.

АЛЕ... ЁН ТАК КАТУЕ. А Ў ЯГО ВАЧАХ НЯНАВІСЦЬ... НЯНАВІСЦЬ ДА МЯНЕ.
МУЖ МОЙ, ГЭТА ПРОСТА **ЗАМЯШАННЕ**. НАШ СЫН ЗНАХОДЗІЎСЯ Ў ЦЕМРЫ І ПАД ПРАКЛЁНАМ ЗЛА.
АЛЕ ТЫ АБАВЯЗАНЫ ПАМЯТАЦЬ, ШТО ЁСЦЬ СІЛА, ЯКАЯ ЗАЎСЁДЫ ЗНАЧНА МАЦНЕЙ ЦЕМРЫ.
ЛЮБОЎ.
БЫВАЙ, МУЖ МОЙ...
ХОЦЬ НАМ І ДАСТАЕЦЦА, АЛЕ МЫ ЗАНАДТА МОЦНЫЯ, КАБ ЗДАЦЦА.
АЛЕ НА ЎСЯЛЯКІ ВЫПАДАК, Я СКЛАЎ СУР'ЁЗНЫ ПЛАН, БРАТАЧКА.
МОЙ МАЛЕНЬКІ ТРУК, ЯКІ, Я ЎПЭЎНЕНЫ, ЗБЯРЭ ЎСІХ.
І Я ПРЫВЯДУ ЯГО Ў АКТЫЎНЫ СТАН, ЯК ТОЛЬКІ СКОНЧУ ГЭТЫ ЛІСТ!
ЁН АБАВЯЗКОВА СПРАЦУЕ, ЧУВАК...
...Я ВЕДАЮ ГЭТА!


НУ ЎСЁ, ПРЫЯЦЕЛЬ, ЧАС СКОНЧЫЎСЯ.


СПАДЗЯЮСЯ, З ТАБОЙ У НЮ-ЁРКУ ЎСЁ ДОБРА.


ТЫ ТОЛЬКІ НЕ ПАДСТАЎЛЯЙ ПЕРШЫМ СВАЮ СРАКУ НІДЗЕ...


...БЕРАЖЫ СЯБЕ.


ХЕХ.


І НЕ СУМУЙ ПА НАС...




...Я ЛІЧУ, ШТО ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА.




МЯРКУЮ З УСІХ СІЛ.










...ЧАКАЙ ПАДМАЦАВАННЕ.

ЯК ЗАГАДАЕЦЕ, КАРАІ.

ПРАЦЯГ БУДЗЕ!